Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 28(64) 12-18 ліпеня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

Палітычная падзея №1 мінулага тыдня – гэта, безумоўна, перамога Барыса Ельцына на прэзідэнтцкіх выбарах у Расіі. 54 % расіян аддалі яму свае галасы. У большасці яго поспех забяспечылі сродкі масавай інфармацыі, якія не толькі працавалі за "вялікія грошы", але яшчэ цалкам усвядомілі, што пагражае народу ў выніку перамогі камуністаў. Асабліва гэта выявілася у другім туры, пры прызначэнні А. Лебедзя на пасаду сакратара Савета бяспекі. Маладога генерала так трымалі ў цэнтры ўвагі, што выбаршчыкі нават не заўважылі чарговага пагаршэння здароўя Елцына і яго адсутнасці ў Крамлі. Успамінаюцца падобныя паводзіны прэзідэнта Расіі ў час падзей у Будзёнаўску і наступная разгромная рэакцыя прэсы. Расійскае грамадства змянілася за гэты час, што і паказалі вынікі выбараў.

Лебедзь, аб'явіўшы вайну карупцыі і злачыннасці і аказаўшы паслугу ў выбранні Ельцына, не забыў заявіць аб пажаданай пасадзе віцэ-прэзідэнта. Канстытуцыя Расійскай Федэрацыі не прадугледжвае падобнага паста, і яго ўвод будзе складаным. Генерал хоча мець гарантыі, што стане афіцыйным пераемнікам гаспадара Крамля. І тут яго чакае "змаганне" яшчэ як мінімум з двума кандыдатамі на гэтае месца– прэм'ер-міністрам Чарнамырдзіным і мэрам Масквы Лужковым, які рэзка набірае палітычную вагу. Сведкамі "высвятлення адносін" мы станем у бліжэйшы час.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка павіншаваў Ельцына з пераканаўчай перамогай на выбарах і выказаў сваю ўпэўненасць, што гэтая падзея дае новы імпульс інтэграцыйным працэсам у межах СНД, выведзе на новы якасны ўзровень развіцця Супольніцтва.

Другая па значэнню падзея – знешнепалітычная ініцыятыва Аляксандра Лукашэнкі, выказаная ім 3 ліпеня, у час святкавання чарговай гадавіны вызвалення Беларусі ад фашысцкай акупацыі. Сутнасць яе ў стварэнні без'ядзернай зоны ад беларуска-расійскай мяжы да германска-польскай і ад Балтыйскага мора да Чорнага. Прапанована таксама ўсім прыхільнікам руху НАТА на ўсход, сродкі, якія спатрэбяцца на ажыццяўленне гэтай небяспечнай і дарагой задумы, выкарыстаць на гуманітарную дапамогу ахвярам Чарнобыля, на пераадоленне экалагічных вынікаў катастрофы. Як адзначаюць палітычныя аглядальнікі, вялікай адказнай рэакцыі з еўрапейскіх краін не паследавала. Адрэагавалі затое дэпутаты Вярхоўнага савета РБ, фракцыі "Саюз працы", заявіўшы, што галоўная праблема нават не ў тым, што Лукашэнка перахапіў іх ідэю, а ў тым, што ён яе сказіў і выклаў ў непрымальнай форме. Пётр Краўчанка параўнаў заяву прэзідэнта з ультыматумам і лічыць, што так яго і ўспрымуць дзяржавы, да якіх яно звернута. Ідэя, якая магла паслужыць аб'яднанню грамадства, становіцца паступовa яшчэ адным прадметам рознагалоссяў. ***Аляксандр УЛАДЗІН.***

## Адным абзацам

❑10 ліпеня споўнілася два гады з выбрання А. Лукашэнкі прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Своеасаблівай справаздачай стала сустрэча прэзідэнта з галоўнымі рэдактарамі вядучых сродкаў масавай інфармацыі. Лукашэнка шчыра прызнаўся, што ўступаючы два гады назад на пост кіраўніка дзяржавы, ён не думаў, наколькі цяжка будзе ісці працэс пераўтварэння. Але курс на перамены ўзяты, і з гэтага шляху ён не сойдзе.

❑На гэтым тыдні прэзідэнт наведае з афіцыйным візітам Французскую Рэспубліку. Чакаецца падпісанне дагавора аб узаемаразуменні і супрацоўніцтве паміж нашымі дзяржавамі. Гэта будзе першы аб'ёмны дакумент, які Беларусь падпісвае з буйной заходняй дзяржавай. Ён стане юрыдычнай падставай далейшага развіцця супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў з улікам узаемных інтарэсаў.

❑Падводзячы папярэднія вынікі першай сесіі Вярхоўнага Савета, якая заканчвае сваю работу, старшыня С. Шарэцкі адзначыў, што парламенту можна ставіць за зробленую работу "здавальняюча". Спікер прызнаўся, што недастаткова ўвагі было нададзена пытанням эканомікі. Некаторыя законапраекты былі распрацаваны парламенцкімі камісіямі самастойна, таму што ад Кабінета Міністраў і прэзідэнта яны проста не паступалі.

❑У бліжэйшы час можна чакаць звальненняў пенсіянераў, якія працуюць на трактарным і аўтамабільным заводах. Іх доля ў гэтых працоўных калектывах складае 13-16 %. Пры гэтым 90% пенсіянераў атрымліваюць пенсію ў поўным памеры. На міжнароднай канферэнцыі па інвестыцыях прэм'ер-міністр М. Чыгір заявіў, што ва ўмовах залішняй працоўнай сілы прыходзіцца ісці на гэту вымушаную меру.

❑Падведзены вынікі рэспубліканскага агляду-конкурсу лепшых архітэктурных твораў года. Гран-пры конкурса атрымаў рэалізаваны праект "Маладзечна. Шталаг-342", Канцлагер савецкіх ваеннапалонных і жыхароў Маладзечна. Гэта ж работа названая лепшай у намінацыі "Манументальнае мастацтва".

❑Працягваюцца музычныя фестывалі ў рэспубліцы. У выхадныя на Мядзельшчыне завяршыўся штогадовы фестываль харавых калектываў "Пеўчае поле". А ў гэтыя ж дні мы з вамі будзем сачыць за фестывалем у Віцебску "Славянскі базар". Усе зоркі ў госці да нас!



# На канцы іголкі наркамана

***Як паведаміла "Рэгіянальнай газеце" інфармацыйная служба творчага аб'яднання "Ранак" са Светлагорска Гомельскай вобласці, па стану на 11 ліпеня клінічна пацверджана ў 38 жыхароў гэтага горада захворванне на СНІД.*** Усяго інфіцыраваных выяўлена 52 чалавекі. Каля 20 чакаюць вынікаў дадатковага абследавання ў Мінску. Усіх няшчасных аб'ядноўвае тое, што яны – наркаманы.

У сувязі з гэтым Светлагорскі гарвыканком выдаў распараджэнне аб дадатковых мерах па прафілактыцы СНІДу. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "Улічваючы гранічна неспрыяльнае становішча па наркаманії ў горадзе, дзе афіцыйна на ўліку ў наркадыспансеры знаходзіцца 208 наркаманаў, а па дадзеных ГРАУС іх колькасць перавышае адну тысячу чалавек, можна чакаць ускладнення эпідэміялагічнай сітуацыі па СНІДу."

Каментарый урача-эпідэміёлага Вадзіма Сахарава, Светлагорск.

– Інфармацыя аб першых інфіцыраваных паступіла да нас у сярэдзіне чэрвеня. Фактычна можна гаварыць аб успышцы гэтай хваробы.

Па словах спецыялістаў, існуе некалькі версій захворванняў СНІДам сярод наркаманаў. Апошнім часам наркотыкі пастаўляюцца ў Светлагорск у разведзеным выглядзе, у слоіках. Гэта можа быць прычынай заражэння ўсяго слоіка наркотыка цалкам.

Светлагорск у шоку. Людзі баяцца ісці ў паліклініку, да стаматолага, у кафэ. Куфаль піва, і той тоіць небяспеку.

У Маладзечне, самым буйным горадзе нашага рэгіёна, не выяўлена пакуль ВІЧ-інфіцыраваных. Але ў горадзе наркаманы не з'яўляюцца асобамі экзатычнымі. Усяго можна чакаць. СНІД тоіцца на вастрыі іголкі наркамана. Будзем пільнымі.

***Аддзел інфармацыі.***

## Ёсць "Шанс"

***МАЛАДЗЕЧНА. Футбольныя навіны з Беразінскага становяцца адной з асноўных тэм "РГ".***

На свае вочы пабачыць нядаўні турнір па міні-футболу маюць магчымасць тысячы маладзечанцаў. Аб гэтым паклапаціліся арганізатары "Беразінскага-96" і студыя кабельнага тэлебачання "Шанс".

Два дні захапляючай барацьбы, інтэрв'ю з гульцамі, трэнерамі, гасцямі, дыскатэка з удзелам Іны Афанасьевай, музычныя застаўкі не пакінуць гледачоў абыякавамі.

Глядзіце перадачы маладзечанскага кабельнага тэлебачання ў бліжэйшыя панядзелак і аўторак з 19-00.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

## Навіны

### Усё вяртаецца на кругі свая

***– гаворыцца ў Бібліі. У 1951 годзе ў Івянцы быў зруйнаваны праваслаўны храм, узведзены ў 1914 годзе на сродкі мясцовага жаночага манастыра.***

Напэўна, лёс царквы прадвызначыла яго "няўдалае" месцазнаходжанне – якраз насупраць сельскага савета. Настаяцель быў асуджаны. Пазней на месцы знішчанай царквы паставілі помнік воінам Вялікай Айчыннай вайны.

Нядаўна раённымі ўладмі і архітэктурнай службай дадзены дазвол на будаўніцтва ў Івянцы праваслаўнай царквы. Па просьбе вернікаў узвядзенне храма пачнецца на месцы, дзе стаяла колішняя Свята-Ефрасіннеўская царква. Менавіта яно і было асвечана патрыярхам Філарэтам падчас яго нядаўняга візіту ў Івянец.

Такім чынам, новая царква павінна вырасці на цэнтральнай плошчы гарадскога пасёлка, а помнік аўтаматычна трапіць у царкоўны двор. Цяпер галоўнай праблемай для айца Віктара, энтузіяста адраджэння храма, з'яўляецца пошук спонсараў, якія дапамаглі б у гэтай справе.

***Таццяна ШАБЛЫКА.***

### Быў і застаецца народным

***ВІЛЕЙКА. Самадзейны тэатр гарадскога Дома культуры даўно носіць званне народнага.***

Днямі вілейчане змаглі паглядзець чарговую работу тэатра. Дзве класічныя камедыі – І. Крылова "Урок дочкам" і Ф. Салагуба "Бяда ад пяшчотнага сэрца" былі аб'яднаныя пад агульнай назвай "Вечар рускага раманса".

Мяркуючы па рэакцыі глядацкай залы, вечар стаў прыкметнай падзеяй у культурным жыцці горада. Гэтай работай самадзейны тэатр яшчэ раз пацвердзіў званне народнага.

***Аддзел інфармацыі.***

### Мясная гаспадарка

***АСТРАВЕЦ. Бяда, калі на прадпрыемствах, у гаспадарках затрымліваецца зарплата. І калі працаўнікі раней, ці пазней яе атрымаюць, то як жыць беспрацоўнаму?***

Знайсці работу ў маленькім горадзе складана. Цэнтр занятасці шукае хоць часовы занятак.

Сорак чалавек праполвалі буракі ў адным з калгасаў. За дзень апрацоўвалі каля пяці сотак. А паколькі на калгасным рахунку грошай небагата – адміністрацыя вырашыла разлічыцца мясам: за адну сотку кілаграм ялавічыны.

Някепска. Вось калі б яшчэ некалькі такіх мясных гаспадарак.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

## Футбол трансліравалі, але не для нас

***Футбольны матч "Атака-Аўра"-"Антальяспор" назіралі ў прамым эфіры ў Турцыі, а не на Беларусі.***

Што ж, магчыма, гэта і лепш, бо не кожны балельшчык вытрымаў бы такі разгром. Туркі перамаглі 3:0. Мінчане за дзве гульні ў Маладзечне ў рамках турніру УЕФА-Інтэртота не забілі ні аднаго гола, прапусціўшы аж сем.

Першая ў гісторыі Маладзечна трансляцыя футбола ў прамым эфіры адбылася 7 ліпеня 1996 года і адразу за межы нашай краіны ў Турцыю. Ажыццявіла яе тая ж брыгада, што забяспечвала фестывалі "Маладзечна". А заплаціла за ўсё турэцкая фірма.

На Беларусі не знайшлося багатых людзей, не спрацаваў і дзяржаўны інтарэс. Беларусы глядзелі футбол у запісе праз тры з паловай гадзіны пасля яго заканчэння. Відаць, туркам футбол больш патрэбны, чым нам.

***Мікола ЛІННІК.***

## У эфіры праўда

***Шмат хто на Беларусі слухае беларускамоўныя 25-хвілінныя праграмы з Варшавы. Беларуская рэдакцыя Польскага радыё знаходзіць усё больш сталых сваіх прыхільнікаў. А Юрась Корбан з Віцебска, напрыклад, які не прапускае ўвогуле ніводнай перадачы гэтай праграмы, стаў добраахвотным яе памочнікам і каардынатарам на тэрыторыі нашай краіны.***

***Аб чым жа перадачы беларускай рэдакцыі? Галоўны рэдактар «РГ» Аляксандр МАНЦЭВІЧ гутарыць з супрацоўнікам беларускамоўнай праграмы Польскага радыё Марцінам СМЯЛКОЎСКІМ у яе рэдакцыі ў Варшаве.***

**—Пане Марціне, вашы перадачы разлічаны для беларусаў Польшчы, пераважна з Беласточчыны?**

—Якраз і не. Галоўны адрасат нашых праграмаў— жыхары Беларусі. Мы стараемся расказаць як мага больш поўна і аб'ектыўна пра жыццё Польшчы, ды і Беларусі таксама. Скажам, падзеі ў Мінску мы асвятлялі па-свойму. Такую інфармацыю, як у нас, вы наўрад ці адшукаеце яшчэ дзе. Знайдзіце нас у эфіры і параўнайце нашыя навіны з навінамі, якія гучаць на хвалях іншых радыёстанцыяў. Мы, калі праводзіць нейкія паралелі, хочам адыгрываць ролю існаваўшай некалі станцыі «Свабодная Еўропа». На Польскім радыё створаны дзеля гэтага 9 іншамоўных службаў: беларуская, ангельская, украінская...

**—У вашай рэдакцыі працуюць беларусы?**

—Не толькі. Таксама палякі з Беларусі — студэнты, якія навучаюцца тут і добра валодаюць мовай, ды і карэнныя палякі, як, скажам, я.

**—А адкуль у вас такое веданне беларускай мовы?**

—З часу вучобы на беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце.

**—У Польшчы няма ўвогуле дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Польскае радыё не выключэнне, прыватнае?**

—Не, не прыватнае. Публічнае, утворанае як суполка акцыянераў, дзе асноўная доля акцый належыць дзяржаўнаму казначэйству. Гэта не азначае, што дзяржава ўплывае на нашу работу. Паверце, не. Іншая справа, што казначэйства атрымлівае частку барышу ад нашай работы.

**—Давайце вернемся да работы вашай рэдакцыі. Ці часта ў вас бываюць госці з Беларусі?**

—Апошнім часам, з прызнаннем нас— часцей. Але палітыкі не часта. Хіба што з бэнэфу. Але мы самі стараемся ісці насустрач слухачу. Праводзім сваю рэкламную кампанію шляхам улётак, якія дасылаем на Беларусь па ўсіх вядомых нам адрасах. Наш Ярэк Іванюк такім чынам наладзіў кантакты з многімі слухачамі. Дарэчы, вы як даведаліся пра нашую рэдакцыю?

**—З улёткі, дасланай нам праз пошту.**

—Вось так. Мы лічым, што змест нашых перадач залежыць ад слухача, таму стараемся выйсці на непасрэдны кантакт з ім. Атрымаўшы ліст (або некалькі лістоў у адным канверце), высылаем на адрас слухачоў свае інфармацыйныя лістоўкі з раскладам беларускіх перадач. А выходзім у эфір чатыры разы на суткі ў 14.30, 16.30, 19.00 і 21.00 па мінскім часе на частотах 41 і 49 метраў. Нашы перадачы можна таксама знайсці па спадарожнікавай сувязі — ЭЎТЭЛЬСАТ ІІ Ф-6 Hot Bird, 13 градусаў усходняй даўжыні, частаа 11,474 Ггц, гарызантальная палярызацыя, аўдыё нясучая 7,38 Мгц штодзённа а 6.00, 11.00 і 17.00 па мінскім часе. Нашу трыццаціхвілінную перадачу можна слухаць таксама ў Мінску і яго наваколлі (тычыцца і Маладзечна) на хвалях радыё 101.2 штодзённа а 17 гадзіне. Зычым вам добрага прыёму!

**Ад рэдакцыі.** Адрас Беларускай рэдакцыі Польскага радыё: 00-977, WARSZAWA P.O. Box 46, Польшча. Можаце дасылаць свае лісты і заяўкі на адрас у Беларусі: 210038, Віцебск, 38, а/с 5, Юрасю Корбану.

 



## Сведчаць дакументы

# 1939-1941

## Хроніка злачынстваў

*З кожным днём становяцца вядомымі ўсё больш дакументаў аб масавым знішчэнні людзей сталінскім рэжымам у пачатку другой сусветнай вайны. Рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты» сталі даступнымі некаторыя дакументы, што тычацца перыяду 1939-1941 гадоў, большасць з якіх яшчэ не публікавалася на тэрыторыі Беларусі. Назвы нашых Ашмянаў, Валожына, Маладзечна, Вілейкі і сёння для нямногіх з тых, хто ацалеў тады і дажыў да нашага часу, гучаць гукамі пахавальнага звону.*

## Дарогі смерці

*З рапарту аб эвакуацыі месцаў заключэння НКВД БССР.*

*Начальніку Упраўлення турмаў НКВД СССР маёра дзяржбяспекі тав. Нікольскага.*

*Сакрэтна.*

*З 31 турмы НКВД БССР вязні эвакуіраваны з турмаў: Глыбокае, Маладзечна, Пінск, Столін, Драгічын, Орша, Полацк, Віцебск, Магілёў, Мазыр, Гомель, Чэрвень, Вілейка і Стоўбцы. Вязні астатніх турмаў былі або выправаджаны і разбегліся ў дарозе падчас налёту нямецкай авіяцыі, або засталіся ў турмах падчас заняцця гарадоў нямецкімі войскамі.*

*Падчас авіяналёту на Ашмяны палітрук турмы ў Ашмянах Кліменка і намеснік оперупаўнаважанага Аўдзееў самавольна вывелі з камер 30 абвінавачаных у контррэвалюцыйнай дзейнасці вязняў і ў сутарэнні турмы расстралялі іх, пакідаючы рэшткі непахаванымі. Астатнія вязні засталіся у камерах і затым разам з усім персаналам пакінулі турму.*

*На наступны дзень жыхары Ашмянаў, даведаўшыся аб казні вязняў, пайшлі ў турму і сярод забітых шукалі сваякоў.*

*Гэтая інфармацыя паступіла з уласнага данясення начальніка операддзела Упраўлення турмамі Парэмскага, які расказаў мне пра гэта ў дзень выезду з Гомеля 15 жніўня 1941 года. Загадаў яму дакласці аб гэтым наркому.*

***Нам. нач. Упраўлення турмамі НКВД БССР лейтэнант дзяржбяспекі Опалеў.***

*3 верасня 1941.*

***Ашмяны.** У ноч з 23 на 24 чэрвеня 1941 года тут загінулі 52 асобы. Вязняў выводзілі па аднаму з камер у сутарэнні суседняга з турмой будынка і забівалі стрэламі ў патыліцу. Расстрэлам камандаваў камендант турмы Кандратаў.*

*Перад ранкам водгукі аўтамабіляў па дарозе ад Вільні спалохалі энкавэдзістаў. Менавіта гэта выратавала частку вязняў, для ліквідацыі якіх проста не хапіла часу, таксама пяцёх параненых, якія ацалелі і былі выратаваныя жыхарамі горада.*

***Валожын.** 26 чэрвеня 1941 года адпраўлена з турмы ў Валожыне каля сотні вязняў. У рове ля Тарнаўскага лесу, што ў 12 кіламетрах ад Мінска, іх расстралялі з кулямётаў. Выратаваліся толькі пяцёра, прыкрытыя трупамі сваіх таварышаў.*

***Вілейка.** 24 чэрвеня з часткі вязняў была сфарміравана маршавая калона, якую з-за абстрэлу чыгуначнай станцыі ў Маладзечне павялі далей на ўсход праз Ілью, Плешчаніцы. Па дарозе вязні атрымлівалі вельмі мала вады і ежы. Слабейшых, якія не вытрымлівалі тэмпаў маршу, канваіры забівалі з рэвальвераў, штыхамі. Ля Плешчаніц НКВД правяло групавы расстрэл. Загінула там некалькі сотняў чалавек. (Спісы тых, хто загінуў па дарозе з Вілейкі, будуць апублікаваныя ў адным з бліжэйшых нумароў «Рэгіянальнай газеты»— рэд.).*

*Паблізу вёскі Касута, ля якой праходзіла калона, жыхары знайшлі ў полі каля сотні трупаў. 28 чэрвеня калона дайшла да Барысава, дзе вязняў паспешна загрузілі ў вагоны і павезлі ў Разань. Там аказалася, што з 1400-1800 вязняў, што выйшлі з Вілейкі, не хапае 400-700.*

*У вілейскай турме засталося яшчэ сто з лішнім вязняў са смяротнымі прыгаворамі і няздольных да маршу. Аддзел НКВД расстраляў іх, а целы закапаў у некалькіх траншэях у двары.*

***(Друкуецца па кнізе DROGI SMERCI, выдавецтва «KARTA», Варшава, 1995.)***

***

***Сведчанне доктара Т.М.Вялічкі (псеўданім) аб савецкай турме у Вілейцы (другая палова 1943 г. або 1944 г.). Дакумент захоўваецца ў Інстытуце Хувера, Станфорд, Каліфорнія, ЗША. (Друкуецца па кнізе Рышарда Шаўлоўскага WOJNA POLSKO-SOWIECKA 1939, том 2, выдавецтва «NERITON», Варшава, 1995.)***

*Змрочная трагедыя вязняў з Вілейкі дачакалася эпілогу, які не саступае пякельным сцэнам Дантэ. Эпілогам была эвакуацыя той турмы і здарэнні пры гэтым, якія жыва нагадваюць жудасныя забойствы польскіх афіцэраў у Катыні.*

***Працяг будзе.***

## У кожным пакоі па сыну

***Калі нараджэнне двайнят факт адносна не такі і рэдкі, то тройні ў Маладзечне толькі дзве. Па трынаццаць гадоў споўнілася Каці, Людзе і Свеце Марозавым, на год маладзейшыя за іх Саша, Віталік і Паўлік Цішчанкі.***

Тры першыя месяцы свайго жыцця браты Цішчанкі разам са сваёй мамай Янінай Мечыславаўнай былі на "казённых" харчах у дзіцячай бальніцы. І не таму, што ўрачы знайшлі нейкія адхіленні ў іх здароўі. Не, хлопчыкі нарадзіліся здаровымі, з нармальнай вагой. "Пакуль не забяспечаць, як гэта законам прадугледжана, кватэрай, не выйду з бальніцы",– заявіла Яніна. І дасылала пісьмы-скаргі ва ўсе газеты, якія толькі ведала. Дабілася свайго. У прафкоме радыёзавода "Спадарожнік" уручылі ордэр на трохпакаёўку.

Амаль дванаццаць год прайшло з таго часу. Хлопчыкі скончылі шэсць класаў СШ № 11. Год таму ад сардэчнай хваробы раптоўна памёр іх бацька– Аляксандр Фёдаравіч, і ўсе клопаты ляглі на плечы маці. Яна працуе цяпер нарміроўшчыцай у ГВП "Аксаміт". Апошняя зарплата не дасягнула і трохсот тысяч. Як умудраецца накарміць, адзець трох сыноў?

Сама добра шые – ужо лягчэй. Трымае хлопчыкаў у строгасці, з дзяцінства прывучыла іх да самаабслугоўвання. Дапамагаюць бацькі. Вось і на гэта лета забяруць унукаў да сябе ў вёску, дзе іх даўно чакаюць тры веласіпеды, купленыя яшчэ па сто дваццаць рублёў па візітках.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## У дрэва– свой нумар

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Так клапоцяцца аб дрэвах у парку гарпасёлка Беразінскае.***

250 мільёнаў рублёў выдзелена на добраўпарадкаванне зялёнай зоны. Сярод бяроз і клёнаў– восем доўгажыхароў, якім за 160.

Ёсць вадаём. Калісьці ён меў форму выцягнутага яйка. З гадамі абмялеў, парушыліся берагі. Цяпер капаюць, чысцяць – імкнуцца вадаёму даць другое нараджэнне. Але ўзнікла праблема – не трымаецца, працякае вада. Таму плануецца поўнасцю дно засцяліць поліэтыленам і прысыпаць пяском.

Парк сцерагуць ільвы. Быў час, калі яны трымалі арку на ўездзе ў Маладзечна. Цяпер адпачываюць у гарпарку і штогод мяняюць свой колер. Летась былі залатымі, а сёлета скульптуру пафарбавалі пад серабро.

У хуткім часе натоўп падлеткаў пойдзе на "Стары парк". Не вайной, а каб адпачыць. Бо менавіта так будзе называцца дыскатэка ў самім парку.

*Ала ЕРМАКОВІЧ.*

## Пішуць з Валожына

### Пушкін сустрэўся з Пастарнакам на Валожыншчыне

***Абедзве сям'і жывуць у вёсцы Забрэззе– цэнтры аднайменнага сельсавета, абедзве прыехалі сюды з іншых мясцін.***

Сям'я Яўгена Пастарнака пусціла трывалыя карані. Гаспадар працуе даглядчыкам жывёлы ў мясцовым калгасе імя Куйбышава, яго жонка Галіна– медсястра Забрэзскай урачэбнай амбулаторыі. Галава сям'і шмат часу аддае касцёльным справам. Пастарнакі выхоўваюць траіх дзяцей: Надзею, Вольгу і Андрэя. Старэйшая спрабуе пісаць вершы, як і знакаміты цёзка па прозвішчы. Першыя творы васьмікласніцы ўбачылі свет у "Літаратурнай старонцы", якая кожны месяц з'яўляецца ў раённай газеце "Працоўная слава".

А вось Уладзімір Пушкін, на жаль, нідзе не працуе.

На тэрыторыі Забрэзскага сельсавета пражываюць шмат людзей з прозвішчамі Троцкія, ёсць свой Пазняк.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Не паступіла ні тысячы

***Усё цячэ, усё мяняецца. Гады са два таму ў аддзяленні Агрампрамбанка можна было атрымаць інфармацыю аб грашовых паступленнях у Фонд міру.***

У недалёкім 1994 годзе добраахвотныя ўзносы пералічвалі ў асноўным калгасы раёна. Але зацяжныя рыначныя хваробы давялі гаспадаркі да безграшоўя, і, неўзабаве рахунак апусцеў.

Сёлета таксама не было ахвотнікаў сярод працоўных калектываў матэрыяльна падтрымліваць яшчэ ўсё па-ранейшаму існуючы Фонд.

Няма і індывідуальных грашовых паступленняў у справу ўмацавання міру. Навідавоку неаспрэчная прыкмета часу: людзі цяпер больш сімпатызуюць фондам, што іх фінансуюць, падтрымліваюць, а не тым, якія самі чакаюць грашовай дапамогі.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

### Скарбніца Налібоцкага краю

***Налібоцкі заказнік– гонар Валожыншчыны. Плошча паляўнічых угоддзяў яго складае больш за 36 тысяч гектараў. Межы заказніка распаўсюджваюцца і на тэрыторыі суседніх раёнаў– Стаўбцоўскага, Іўеўскага, а таксама Навагрудскага.***

Яго валожынскую фаўну складаюць 20 зуброў, 170 аленяў, 100 казуляў, 140 дзікоў, іншыя прадстаўнікі жывёльнага свету.

Розныя куточкі раёна насяляюць прадстаўнікі фаўны, якія ўзяты пад ахову і занесеныя ў Чырвоную кнігу. Гэта лебедзь-шыпун, барсук, чорны бусел, мядзянкі, філін (пугач), ручаёвая стронга. Ёсць запаведныя мясцінкі і ў ваколіцах невялічкіх вёсак Клім і Куцяняты: тут сустракаюцца рэдкія расліны– плывун-баранец і ветраніца лясная.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

### 100 пуцёвак

***атрымалі выхаванцы Валожынскай спецшколы-інтэрната на першую змену ў аздараўленчы лагер "Палачанка" ля Ракава. Аднак для многіх з іх летні сезон пачаўся намнога раней.***

Ледзьве не родным домам стала для школьнікаў Германія. Некаторыя выхаванцы пабывалі ў нямецкіх сем'ях па 7-8 разоў. Рэгулярна атрымліваюць пісьмы, імянныя пасылкі ад сваіх гаспадароў, добра валодаюць нямецкай мовай. З 31 мая на ўсё лета выехалі ў гасцінную краіну 15 вучняў, яшчэ 7 чалавек паехалі 1 ліпеня. Каля 15 дзяцей правядуць летнія канікулы ў італьянскіх сем'ях. Летась 24 выхаванцы "асвойвалі" далёкую Ірландыю.

Пашчасціла Пецю Яшану і Любе Зенчык, якія зараз знаходзяцца ў Канадзе. А Сяргей Прыхожы жыве ў нямецкай сям'і ўжо пяць гадоў, наведвае ў Германіі школу і зрэдку прысылае пісьмы сваім выхавацелям.

Але не толькі заграніца вабіць інтэрнатаўцаў. Трох дзяўчынак на лета ўзялі ў свае сем'і педагогі школы. Некаторыя выхаванцы паехалі на канікулах у сем'і апекуноў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## "Роняю стих, как жертвенный бокал"

***МАЛАДЗЕЧНА. У бібліятэцы ім. М. Багдановіча прайшоў вечар, прысвечаны памяці А. Сакалова і выхаду ў свет яго зборніка "Стихи провинциального поэта". Сабраліся родныя, сябры паэта, шанавальнікі яго паэзіі. Вершы Аляксандра Сакалова, цудоўная музыка - сустрэча прайшла на адным дыханні.***

Рускія, беларускія і ўкраінскія песні, рамансы выканалі выкладчыкі музвучылішча Галіна Баян-Ключнікава і Мікалай Слабадзюк пад акампанемент Ганны Сперанскай, Ала Кудрына (акампанемент Сяргея Кудрына), хор ветэранаў "Надежда" пад кіраўніцтвам Надзеі Зінкевіч, трыо "Фіеста".

Вершы паэта чыталі артысты Мінскага абласнога драмтэатра Аляксандр Пашкевіч і Алена Доніна, артыст Народнага тэатра Алег Шчукін, выкладчыца эстэтычнага выхавання Таіса Трафімава, Алена Шчыкаціхіна, Ніна Церах.

Засталася пачуццё адкрыцця маладзечанцамі "свайго" паэта, які амаль чвэрць века жыў побач, працаваў, кахаў, ствараў свет сваёй паэзіі. Сустрэчы працягнуцца ў штогадовых літаратурна-мастацкіх чытаннях і літаратурна-музычных вечарынах.

Удзельнікі ўдзячныя загадчыцы метадычнага кабінета бібліятэкі Веры Качкан, якая ўклала сваё майстэрства ў тое, каб вечар "прагучаў" пранікнёна і кожны адчуў нябачную прысутнасць паэта.

*Галіна САКАЛОВА, Мікалай СЛАБАДЗЮК.*

## Астравецкія гісторыі

### Памяць кепская

***Прыкупіўшы на "чорным рынку" пісталет ці аўтамат, як правіла, незаконным шляхам, некаторыя "крутыя" хлопцы такім чынам спрабуюць набыць і кулі да іх.***

У суседняй Літве заводаў па выпуску падобных "тавараў шырспажыву" не існуе, таму даводзіцца завозіць гэта з Расіі. У адным з вагонаў цягніка "Масква-Вільнюс" у вентыляцыйнай шахце нехта схаваў поліэтыленавы пакет з пяццю патронамі калібру 7,62 мм. На мытным пасту "Гудагай" яго выявілі супрацоўнікі мытні. І колькі яны ні пыталіся ў пасажыраў пра пакет, гаспадар так і не пажадаў аб'явіцца.

Магчыма, памяць падвяла.

### Калі грошай няма

***У дзяжурную часць РАУС паступіў сігнал аб тым, што на дарозе Астравец-Ашмяны непадалёку ад мястэчка Гудагай двое невядомых, спыніўшы аўтамабіль, запатрабавалі ў экспедытараў аптовай базы С. і Г. грошы ў суме 200 долараў.***

У тых такіх грошай днём з агнём нельга было знайсці, а таму яны звярнуліся за дапамогай у міліцыю. Там, у сваю чаргу, не прымусілі доўга чакаць. Праўда, аднаму з "рэкеціраў" удалося на нейкі час схавацца ад міліцыі.

Але пасля правядзення вышуковых мерапрыемстваў ён выяўлены і цяпер знаходзіцца пад вартай у чаканні суда. Паколькі артыкул Крымінальнага кодэксу за такія дзеянні прадугледжвае "салідны" тэрмін, то "неба не ў клетку" яму давядзецца ўбачыць не вельмі хутка.

*Мар'ян ВЯНРГОЎСКІ.*

### Прыйшоў лячыцца

***Гэты сівабароды бомж і раней раз-пораз з'яўляўся ў прыёмным пакоі раённай бальніцы. Яго адмывалі, кармілі і лячылі. Праз колькі часу, ад'еўшыся і адаспаўшыся, ён знікаў гэтак жа нечакана, як і з'яўляўся.***

Некалькі гадоў стары не наведваўся, і на яго пачалі забывацца. Але нядаўна знаёмец зноў узнік на парозе аддзялення "хуткай дапамогі"– да немагчымасці брудны, завашыўлены, з двума клункамі і заплечным мяшком, поўнымі ўсялякага рызза. Не без уздыху душэўнага яго найперш павялі ў ванную, потым – у сталовую. Медсёстры назносілі з дому паношанага адзення і пераапранулі бедака ва ўсё чыстае.

Людзі расказваюць, што даўным-даўно маці, не жадаючы аддаваць адзінага сыночка ў войска, напаіла яго нейкім зеллем. У псіхіцы хлопца адбыліся незваротныя зрухі, з'явілася цяга да бадзяжніцтва. Так і састарыўся гаротны ў самоце ды бясконцых вандроўках.

*Таццяна СЁМІНА.*

